www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 18 (4167)**

3 сакавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



*«Народная Воля»*
*в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya*
*в Facebook www.facebook.com/nv.online.info*
*в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

БЛІЦ

*Паводле заяў кіраўніцтва краіны, у 2017 годзе заробкі беларусаў павінны вырасці да 500 долараў. Па цяперашнім курсе гэта каля 1000 рублёў.*

## А якія ж заробкі сёння ў многіх з тых, хто працуе на прадпрыемствах?

**Аляксандр МАШКО, намеснік генеральнага дырэктара ЗАТ «Атлант» па ідэалагічнай працы і персанале:**

– Розныя. У залежнасці ад пасады, кваліфікацыі работніка. Так, за студзень у нас сярэдняя зарплата па прадпрыемстве склала 770 рублёў. Па цяперашнім часе, гэта, напэўна, нядрэнна. Працуем з поўнай загрузкай, некаторыя службы часам нават па выхадных.

**Сяргей КУКСА, намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Баранавіцкае вытворчае баваўнянае аб'яднанне "Блакіт":**

– Заробкі ў нас годныя, людзі працуюць у чатыры змены, магутнасці загружаны поўнасцю. Прадукцыя добра рэалізоўваецца: і пасцельную, і сталовую бялізну людзі ахвотна купляюць. А што тычыцца зарплаты – гэта камерцыйная тайна. Мы развіваем уласную розніцу, і нельга, каб хтосьці ведаў нашы выдаткі.

**Андрэй ЛЯСУН, генеральны дырэктар ААТ «Слуцкі мясакамбінат»:**

– А чаму раптам прэсу зацікавіла наша прадпрыемства? Сёння ў нас справы ідуць не так добра, як хацелася б. Прадукцыя прадаецца, але канкурэнцыя на рынку вельмі жорсткая. Аб'ёмы, якія рэалізоўвае наш камбінат, не задавальняюць, хацелася б іншых вынікаў. А зарплаты? Ёсць статыстыка па галіне, гэтая інфармацыя адкрытая – 670 рублёў. У нас зарплата крыху ніжэй.

**Міхаіл ТАРАНСКІ, галоўны інжынер ААТ "Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат":**

– Не ведаю, якая ў нас зарплата. Афіцыйна звяртайцеся, тады адкажам.

**Мікалай КАВАЛЕВІЧ, намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце і сацыяльных пытаннях ТАА "Гомсельмаш":**

– Зарплата добрая, сярэдняя па прадпрыемстве – 700 рублёў. А асноўныя рабочыя, тыя, хто заняты на зборцы, ітээраўцы зарабляюць больш – 900 рублёў.

**Людміла БІРЫЧ, намеснік генеральнага дырэктара па ідэалогіі ААТ «Лакафарба» (г.Ліда):**

– Уся інфармацыя ў статыстыцы, мы падаём справаздачы рэгулярна. Іншай інфармацыі не даём. Афіцыйна дасылайце запыт, тады адкажам.

**Вячаслаў ЖАВАРАНАК, намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце філіяла "Завод Хімвалакно" (Гродна):**

– А калі я патэлефаную вашаму галоўнаму рэдактару з пытаннем, якая ў вас сярэдняя зарплата, ён адкажа? Хочаце інфармацыю – звяртайцеся пісьмова. А зараз я заняты, займаюся канцылярскімі таварамі.

**Сяргей КАЮШНІКАЎ, галоўны інжынер ААТ «Белшына» (Бабруйск):**

– Заробак патроху павышаем. Сярэдні за студзень быў 775 рублёў, за люты – 796. Мы працуем кругласутачна, у тры змены.

***

Каменціраваць? Думаецца, няма сэнсу. Калі б у людзей была годная зарплата, то іх начальнікі не рабілі б з гэтага тайну.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ГАРАЧАЯ КРОПКА




## Учора з будпляцоўкі каля Курапатаў вывозілі тэхніку і бытоўкі

– Паводле нашай інфармацыі, забудоўшчык прыняў рашэнне спыніць будоўлю, нягледзячы на ўгаворы горада будавацца, – паведаміў БелаПАН Зміцер Дашкевіч, лідар лагера абаронцаў Курапатаў.

Як вядома, на скрыжаванні вуліцы Мірашнічэнкі і Мінскай кальцавой аўтадарогі, каля ўрочышча Курапаты – месца масавага пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій, ТАА «Белрэканструкцыя» вырашыла пабудаваць пяціпавярховы бізнес-цэнтр. Прадстаўнікі грамадскасці і частка мясцовых жыхароў выступілі супраць, лічачы будаўніцтва незаконным. Яны сцвярджаюць, што ўчастак пад бізнес-цэнтр быў прададзены на аўкцыёне тады, калі гэтая зямля яшчэ ўваходзіла ў ахоўную зону гісторыка-культурнай каштоўнасці «Месца масавага пахавання ахвяр палітычных рэпрэсій ва ўрочышчы Курапаты». Акрамя таго, праціўнікі будоўлі адзначаюць, што будаўніцтва аб'екта пачалося да таго, як быў канчаткова зацверджаны праект дэталёвага планавання гэтай тэрыторыі.

Актыўны пратэст грамадскіх актывістаў разгарнуўся 20 лютага: каля будпляцоўкі былі ўсталяваны палаткі і арганізавана кругласутачнае дзяжурства. Абаронцы Курапатаў настойваюць на поўнай адмене будаўніцтва бізнес-цэнтра. 27 лютага будаўнічыя работы на спрэчным аб'екце былі прыпынены.

У той жа дзень у інтэрв'ю парталу tut.by акцыянер «Белрэканструкцыі» Ігар Анішчанка паведаміў, што ўчастак ля Курапатаў быў набыты на аўкцыёне чатыры гады таму. «За ўвесь гэты час было пройдзена з дзясятак экспертыз, атрыманы ўсе заключэнні, і ніхто ні разу да выхаду на будоўлю не сказаў, што могуць узнікнуць нейкія пытанні, звязаныя з Курапатамі. Гістарычнай экспертызы не было, бо яна праводзіцца, толькі калі ўчастак знаходзіцца ў ахоўнай або зоне рэгулявання забудовы. Калі мы куплялі ўчастак, ён ні па адных дакументах не праходзіў як ахоўная зона Курапатаў. Таму ўся гэтая сітуацыя стала для нас поўнай нечаканасцю. Калі б хаця б падчас грамадскага абмеркавання нехта сказаў, што гэта ахоўная зона, мы прыслухаліся б. Мы законапаслухмяная кампанія. Таму зараз у нас пытанне: чаму нам прадалі ўчастак, які ўваходзіў у ахоўную зону?» – заявіў Анішчанка.

«Так, там не расстрэльвалі, і не было там дарогі смерці. Але нас паставілі ў супрацьстаянне з людзьмі, якія хочуць абараніць памяць аб рэпрэсаваных. Я таксама хачу абараніць іх памяць. І жаданні людзей і іх дзеянні нам зразумелыя», – запэўніў бізнесмен.

«На сёння мы прынялі рашэнне не прыпыніць, а цалкам спыніць будоўлю, – дадаў Анішчанка. – Мы вывезлі з участка ўсю тэхніку, рабочых і цяпер чакаем рашэння горада, бо яно ў яго кампетэнцыі. Мінгарвыканкам нам сказаў пачакаць, і мы думалі, што рашэнне прымуць за пару дзён, але прыняцце рашэння зацягнулася, а працягваць работы ў такой сітуацыі немагчыма і небяспечна. Будаваць там, дзе людзі катэгарычна супраць, нельга».

**БелаПАН.**

ПАЗІЦЫЯ

## Зянон ПАЗЬНЯК: «Барацьбу за Курапаты спыняць нельга і пратэсты валанцёраў таксама…»

Адкрывальнік Курапатаў, старшыня КХП–БНФ Зянон Пазьняк пракаментаваў канфлікт вакол будаўніцтва офіс-цэнтра побач з народным мемарыялам.

Нягледзячы на вывад будаўнічай тэхнікі з пляцоўкі каля Курапатаў, Пазьняк перакананы, што справа пратэсту і абароны Курапатаў не спыніцца.

«Яна павінна працягвацца асабліва ў юрыдычнай галіне, што датычыцца чыноўнікаў і асоб, якія жангліруюць законамі і будаўнічымі ўчасткамі. Барацьбу цяпер спыняць нельга і пратэсты валанцёраў таксама. Нельга верыць на словы рэжымным чыноўнікам. Павінны быць законныя рашэнні і дзеянні, выпраўленне парушэнняў і хібаў. Павінна быць перамога справядлівасці, галасная і моцная. А вырваны ўчастак мусіць быць вернуты ў ахоўную зону Курапатаў (гэта абавязкова!)» – лічыць старшыня КХП–БНФ.

ВІЗІТ

## Ці будзе карысць ад візіту ў Мінск Георгія Маргвілашвілі?

Два дні гасціў у Мінску прэзідэнт Грузіі Георгій Маргвілашвілі. Якія тэмы закраналіся падчас перамоў з А.Лукашэнкам і іншымі высокімі асобамі Беларусі? Ці ёсць спадзяванне на тое, што планы, якія былі акрэслены раней, нарэшце стануць рэальнымі?

Вынік мінулага года: гандаль падскочыў на 63 працэнты. "Гэта з'яўляецца рэкордам за апошнія пяць гадоў", – заўважыў кіраўнік беларускага ўрада А. Кабякоў. Аснову беларускага экспарту склала высокатэхналагічная прадукцыя – цягнікі Stadler, грузавая і сельскагаспадарчая тэхніка, нафтахімічная і фармацэўтычная прадукцыя. "Удзел Беларусі ў мадэрнізацыі ліфтавага абсталявання ў жылым фондзе Тбілісі і другіх вялікіх грузінскіх гарадах выгадны для абодвух бакоў", – сказаў Андрэй Кабякоў. "Магілёўліфтмаш" гатовы рэалізаваць пілотны праект па мадэрнізацыі ліфтоў і ў далейшым распаўсюдзіць гэтую практыку па ўсёй Грузіі. Новым перспектыўным накірункам можа стаць узаемадзеянне ў сферы будаўніцтва спартыўных і сацыяльных аб'ектаў. У бліжэйшы час у Грузіі плануецца ўзвядзенне лядовай арэны, біятлоннага стадыёна, цэнтра скачкоў з трампліна алімпійскага стандарту. Беларускія праектныя і будаўнічыя арганізацыі гатовы рэалізаваць гэтыя праекты "пад ключ"…

Пра многае іншае вялася размова падчас перамоў з грузінскім прэзідэнтам. Паглядзім толькі, наколькі з цягам часу паглыбяцца нашы стасункі з гэтай гордай закаўказскай суверэннай краінай.

**Сяргей МАРЧАНКА.**

ЗДАРЭННІ

## Рабаўніка шукаюць...

Як вядома, днямі мужчына ў масцы абрабаваў аддзяленне банка ў вёсцы Фарынава Полацкага раёна. Невядомы напаў на касіра і забраў з касы больш за 10 тысяч рублёў. Супрацоўніца банка не пацярпела. Дарэчы, маецца відэазапіс, на якім добра бачны мужчына, але яго твар закрыты зялёнай хусткай або шалікам.

У раскрыцці злачынства ўдзельнічае ўвесь асабісты склад Полацкага РАУС і супрацоўнікі крымінальнага вышуку. На момант падпісання нумара газеты ў друк рабаўніка яшчэ шукалі.

**Алег ПЯТРУШЫН.**

ЧУЛІ?

## Яны чакаюць суда

Яны – гэта былы першы намеснік міністра транспарту **Яўгеній Рагачоў**, былы першы намеснік начальніка Беларускай чыгункі **Уладзімір Міхайлюк** і намеснік гендырэктара прадпрыемства "Белінтэртранс" **Уладзіслаў Лембіеўскі**. Іх крымінальную справу Генеральная пракуратура Беларусі перадала на разгляд суда.

Паводле наяўнай інфармацыі, ім інкрымінуецца злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі. Калі Феміда пацвердзіць гэта, то былыя кіраўнікі могуць атрымаць ад трох да дзесяці гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці альбо без канфіскацыі. І, вядома ж, з пазбаўленнем права займаць у далейшым адпаведныя пасады.

**Кастусь ВАЛЫНЕЦ.**

З НАГОДЫ

## Уладзімір МАЦКЕВІЧ: «Трэба быць прасцей і любіць людзей…»

*1 сакавіка экс-старшыня КДБ Беларусі (1995–2000 гг.) адзначыў 70-гадовы юбілей.*



Як прызнаецца сам юбіляр, нікога з афіцыйных асоб на ўрачыстасці не запрашаў. У сталічным рэстаране «Трактир», дзе Мацкевічу арганізавалі святочны вечар дачка і жонка, былі толькі родныя і самыя блізкія сябры.

– Вечар атрымаўся цёплы, хатні, – прызнаецца Уладзімір Аляксандравіч. – Рэстаран не падвёў: цудоўная кухня, абслугоўванне на вышэйшым узроўні. Натанцаваліся... Наогул, настрой у мяне выдатны. Адчуваю сябе добра, як у пяцьдзясят.

**– Працягваеце працаваць?**

– Так, у «Газпромнефти». Я дарадца, працую па сваёй першай спецыяльнасці, вярнуўся да вытокаў. У свой час я закончыў Беларускі тэхналагічны інстытут імя Кірава па спецыяльнасці "хімічная тэхналогія перапрацоўкі нафты і газу". Гэта потым ужо была служба ў органах.

**– Ці не стаміліся ад работы? Усё ж такі былі на адказных пасадах – старшыня КДБ, пасол Беларусі?**

– Калі паглядзець, то нашы беларускія мужчыны, калі сыходзяць на пенсію, доўга не жывуць. Трэба ўсё ж такі ўвесь час быць у тонусе, нервы павінны быць нацягнутыя. А праца дысцыплінуе, гэта своеасаблівы стымул у жыцці. Я працую з задавальненнем. Але, напэўна, усё ж пасля 70 з гэтым трэба пакрысе завязваць. Да канца года думаю сысці на заслужаны адпачынак. Буду на лецішчы атрымліваць асалоду ад прыроды, капацца ў агародзе, лавіць рыбу…

**– Можа, раскажаце, у чым сакрэт аптымізму?**

– Трэба быць прасцей і любіць людзей.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ

Імя генерал-лейтэнанта Уладзіміра Мацкевіча, безумоўна, усе ўспамінаюць у сувязі з расследаваннем гвалтоўных знікненняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага. У 2000 годзе У.Мацкевіч разам з тагачасным генпракурорам Алегам Бажэлкам санкцыянаваў затрыманне камандзіра часці спецназа 3214 Дзмітрыя Паўлічэнкі па справе аб зніклых палітыках. Мацкевіч і Бажэлка звярталіся тады да Аляксандра Лукашэнкі і з прапановай арыштаваць дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана. Але скончылася гісторыя адстаўкай і Мацкевіча, і Бажэлкі.

У 2001 годзе Уладзімір Мацкевіч быў прызначаны паслом Беларусі ў Югаславіі. Пасля сыходу з дыпламатычнай службы ў 2007 годзе некаторы час працаваў Маскве, у 2015 годзе зноў вярнуўся ў Беларусь.




СТАЛА ВЯДОМА...

## «Газпром цэнтр» будзе дабудаваны

Падобна на тое, што ў сталічных чыноўнікаў з'явілася нагода для аптымізму: "Газпром цэнтр", будаўніцтва якога было спынена ў снежні, усё ж будзе ўзведзены. "У заказчыка, і ў інвестара ёсць жаданне завяршыць праект", – сказаў на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні Мінгарвыканкама Віктар Лапцеў.

Народная Воля http://www.nv-online.info 3 САКАВІКА 2017 г.

ЖЕНСКИЙ ВЗГЛЯД



Марина КОКТЫШ

# Вода с привкусом денег

Оказывается, сегодня далеко не во всех крупных магазинах можно купить самую обычную белорусскую воду. Дорогая французская – пожалуйста. Грузинская (тоже, кстати, не из дешевых) – хоть залейся. Российская, регулярно попадающая в первые строчки рейтингов небезопасных для здоровья вод, – и та на отдельных стендах в центре торговых залов возвышается, мимо точно не пройдешь!

А «Минскую-4» на полках не сразу и заметишь. Впрочем, «Дариды» вообще нет. Причем давно. На вопрос «Почему?» продавцы «Евроопта» равнодушно пожимают плечами: «Не привозят. Берите другую, какая разница – вода и вода».

А для меня разница есть! Зачем покупать воду сомнительного качества, когда известно, что своя, белорусская, соответствует самым строгим международным стандартам и по качеству считается одной из лучших в Европе? Я и сама, честно говоря, не раз бывала в цехах «Дариды» – видела, в каких стерильных условиях все делается, и знаю, как трепетно и ответственно владелец бизнеса относится к своему делу. Поэтому импортную воду покупаю редко.

Может, обмелели скважины, а предприятие на грани разорения?

Оказалось, не в пересохших источниках дело.

*«В последнее время мы получаем много вопросов и жалоб на отсутствие продукции в магазинах*, – говорят на «Дариде». – *Мы понимаем потребителей, но, к сожалению, в настоящий момент не в наших силах изменить ситуацию, сложившуюся во взаимоотношениях с сетевым оператором «Евроопт». Сегодня мы находимся в затянувшемся переговорном процессе по согласованию торговых условий на 2017 год. Первые встречи были еще в январе, но до настоящего времени переговоры не завершены. Мы предложили «Евроопту» условия сотрудничества, но наш партнер отказывается принимать их и настаивает на увеличении и без того немаленькой скидки на продукцию. Кстати, еще большей, чем в минувшем году. Однако на таких условиях работа с данной сетью для нас становится экономически нецелесообразной»*.

Математика на самом деле впечатляющая. Примерная схема с грубыми цифрами такая: «Дарида» готова отдать свою продукцию по 80 копеек за бутылку. Торговая сеть настаивает на скидке около 30% и готова взять воду за 56 копеек. При этом «Дарида» платит торговой сети так называемые маркетинговые платежи – грубо говоря, за продвижение товара, чтобы его не поставили в темном углу, где покупатели не ходят. Получив товар от производителя с максимальной скидкой, продавец применяет свою торговую надбавку и в итоге покупатель приобретает бутылку «Дариды» примерно за рубль и выше.

*«У них маржинальность больше 60%, а у нас – 1 цент прибыли с единицы продукции, это мизер!»* – говорят на «Дариде».

Белорусские производители недовольны и тем, что «Евроопт», продав продукцию и получив прибыль, с ними вовремя не рассчитывается, а пользуется их деньгами еще на протяжении почти трех месяцев после наступления срока оплаты!

*«Нас фактически поставили на колени и шантажируют*, – открыто говорят в ЗАО «Минский завод безалкогольных напитков». – *Получается, что производитель имеет гораздо меньшую прибыль, чем тот же «Евроопт», который просто продает! При этом идет постоянная просрочка оплат. У них аккумулируются довольно крупные суммы. А ведь нам тоже нужно покупать сырье, материалы, платить зарплату, налоги. Мы живых денег от них практически не видим. И так ведет себя почти вся ключевая розница – «Евроопт», «Рублевский», «Белмаркет». «Корона» и «Bigzz» в этом смысле, пожалуй, самые дисциплинированные»*.

Сегодня в Беларуси, как и в Европе, люди стали больше покупать не напитки, а обычную питьевую воду. На Минском заводе безалкогольных напитков отмечают, что за качество импортной, в том числе российской, минеральной и питьевой воды, представленной в наших магазинах, сегодня никто поручиться не может.

*«Торговые сети пользуются тем, что у нас так называемое Союзное государство с Россией, нет таможни, поэтому заключают договоры с небольшими компаниями, которые везут им все подряд. В том числе и дешевые напитки, которые делаются не на сахаре, а на вредном для здоровья подсластителе. Да и в бутылках с минералкой может быть обычная водопроводная вода, разлитая в полукустарных условиях неизвестно где. Даже Белстат отметил, что доля «серых» напитков на нашем рынке в последнее время серьезно возросла.*

*А у нас если питьевая вода, то обязательно из артезианской скважины, минеральная вода – не искусственной, а естественной минерализации. Но выходит, что на нашем качестве сегодня зарабатывает кто угодно, но только не мы»*.

Министерство антимонопольного регулирования и торговли уже давно наблюдает за этими «кругами на воде». Производители не раз обращались в министерство, просили разобраться в ситуации, но каждый раз слышали в ответ: так это ж свободный рынок, дорогие наши, конкурируйте!

Действительно, законы конкуренции никто не отменял. Но дело в том, что весовые категории на этом ринге у всех разные.

*«Та же «Кока-кола» сегодня позиционирует себя как белорусский производитель, но почему-то никто не хочет вспоминать о том, что это международная компания, а деятельность структуры по Беларуси курирует импортный филиал*, – рассуждают на МЗБН. – *У них другие финансовые возможности. Посмотрите, сколько рекламы на телевидении они дают, билборды кругом, в каждом магазине – фирменные стенды. А у белорусских производителей стоит вопрос простого, простите, поддержания штанов. Правила игры должны быть одинаковыми для всех»*.

Кстати, из-за того, что продукция «Дариды» сегодня не продается в «Евроопте», страдают не только потребители.

*«От приостановки нашего сотрудничества с такой разветвленной сетью, как «Евроопт», государство недополучит около 1,5 миллиона долларов налоговых поступлений*, – отмечают на «Дариде». – *Мы думаем, что в ближайшем будущем придем к общему знаменателю в нашем долгосрочном сотрудничестве и сможем возобновить отгрузку в торговую сеть «Евроопт»*.

«Евроопт» разыгрывает квартиры и машины, приглашает российских звезд, которые требуют немалых гонораров, но при этом не может вовремя расплатиться с белорусскими предприятиями.

Возникает закономерный вопрос: почему правоохранительные органы, Комитет государственного контроля, Департамент финансовых расследований смотрит на все это сквозь пальцы? Под чьим высоким покровительством находится этот сверхприбыльный и, прямо скажем, обнаглевший бизнес? Кстати, версии на этот счет есть разные...

ЭКСКЛЮЗИВ

## Валерий ЦЕПКАЛО: «Не уверен, что хочу быть премьер-министром…»

*Вчера случилось неожиданное: Александр Лукашенко подписал распоряжение об освобождении от должности директора государственного учреждения “Администрация Парка высоких технологий” Валерия Цепкало.*

Новость мгновенно разлетелась по социальным сетям. В “Фейсбуке” на странице Цепкало один за одним начали появляться сообщения:

*«Скажите, что это шутка...»*

*«Как жаль, что все закончилось. Белорусская кремниевая долина – один из немногих секторов роста в экономике...»*

*«А ведь он был эффективный менеджер! Даже представить трудно, кто и, главное, когда сможет перекрыть показатели, которых достиг ПВТ при Цепкало…»*

Некоторое время Валерий Цепкало был недоступен для комментариев. В первой половине дня он находился на своем рабочем месте, но проводил большое, считай, прощальное совещание.

Ближе к обеду «Народной Воле» удалось переговорить с уже бывшим главой Парка высоких технологий, которого новость об отставке, похоже, застала врасплох.

**– Валерий Вильямович, можете прокомментировать то, что случилось? С чем связана отставка?**

– Нет, комментировать не готов. Пока ничего не могу сказать.

**– Для вас эта новость стала неожиданной?**

– Давайте не будем об этом…

**– На вашей странице в «Фейсбуке» полно самых разных комментариев по этому поводу…**

– Спасибо всем большое!

**– А вы вообще здоровы? Никуда не эмигрируете?**

– Нет, все хорошо.

**– На допросы в последнее время не приглашали, с обысками не приходили?**

– *(Смеется.)* Нет, ничего такого не случалось. Если бы что-то было, уже об этом стало бы всем известно.

**– От тюрьмы и от сумы в нашей стране зарекаться точно не стоит. Впрочем, не все комментаторы вас на нары отправляют. Некоторые, например, в премьер-министры сватают…**

– Я ничего не знаю, правда. А что касается должностей… Не уверен, что хочу быть премьер-министром…

На самом деле мир большой, и возможности огромные и у нас, и за рубежом. В любом случае все будет хорошо!

ВЕРСИИ

### Льгот не будет?

Валерий Цепкало активно лоббировал налоговые льготы для резидентов ПВТ. Поэтому сегодня весьма распространено такое мнение: мол, создан уникальный белорусский оффшор. И если беспрецедентные льготы отберут, то ПВТ просто прекратит свое существование. *«Поэтому не удивительно, если за отставкой Цепкало последует и его посадка»*, – такое мнение высказывают на форумах.

Одна из версий отстранения Цепкало от должности – провал плана по экспорту IT-услуг в 2016 году. Тем более что почти год назад Валерий Вильямович заявил: экспорт услуг ПВТ приблизится к миллиарду долларов.

В любом случае ясно, что Валерий Цепкало не планировал уходить с должности – эта работа была ему по душе, и он строил долгосрочные планы.

### Кого назначат?

В Наблюдательный совет ПВТ входит немало известных персон. Например, возглавляет совет помощник президента **Всеволод Янчевский**. Секретарь Наблюдательного совета – **Инесса Концевая**, которая в свое время была начальником главного управления по работе с обращениями граждан и юридических лиц Администрации президента. В Наблюдательный совет входят и другие узнаваемые чиновники.

До назначения нового главы руководить ПВТ, видимо, будет **Инесса Концевая,** потому что она была первым замом у Цепкало.

А кого назначат вместо Цепкало – станет известно в самое ближайшее время.

*«Возможно, с новым директором это будет совершенно другой парк и других технологий»*, – прогнозируют айтишники.

**Вера ВИР.**

ШТРИХИ К ПОРТРЕТУ

В свое время Валерий Цепкало вел блог в интернете, в котором не стеснялся по делу критиковать многие вещи, происходящие в нашей стране. Делал он это тонко, всегда проводя параллели с другими странами.

В прошлом году Цепкало не побоялся выступить в защиту руководства IBA Group, которое попало под пристальное внимание правоохранительных органов. Цепкало прямым текстом в интервью «Советской Белоруссии» заявил, что необходимо исключить из Уголовного кодекса статью «Незаконная предпринимательская деятельность».

ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

*Валерий Цепкало родился 22 февраля 1965 года в Гродно.*

*В 1984-м закончил БНТУ, в 1991-м – МГИМО.*

*1991 – сотрудник посольства СССР в Финляндии.*

*1992–1993 – второй секретарь Министерства иностранных дел Республики Беларусь.*

*1993–1994 – советник председателя Верховного Совета Республики Беларусь по внешнеполитическим вопросам.*

*1994 – советник исполнительного секретаря СНГ.*

*В 1994 году поддержал кандидата в президенты А.Лукашенко и стал одним из руководителей его предвыборного штаба.*

*1994–1997 – первый заместитель министра иностранных дел Республики Беларусь.*

*1997–2002 – посол Республики Беларусь в США и в Мексике.*

*2002–2005 – помощник президента Республики Беларусь.*

*С октября 2005 г. – директор ГУ «Администрация Парка высоких технологий».*

*Владеет английским и финским языками.*



## Святлана БОТВІЧ: «Важна, каб мясцовыя чыноўнікі пайшлі на дыялог…»

*Яна працуе прыбіральшчыцай у адным з дзіцячых садкоў Віцебска. На мінулым так званым «Маршы недармаедаў» узяла слова і выступіла перад пратэстоўцамі. «Народная Воля» пацікавілася ў Святланы Ботвіч, чаму яна выйшла на вуліцу і ці не збіраецца будаваць палітычную кар’еру.*

– У мяне такое выхаванне: заўсёды гаварыць праўду, абараняць людзей, – *кажа Святлана Ботвіч*. – Дэкрэт №3 у цяперашніх эканамічных умовах абсалютна недарэчны. На мой погляд, гэты дакумент стаў апошняй кропляй у чашы народнага цярпення. Да яго людзі ездзілі на заробкі, трывалі, выжывалі, але выходзіць на вуліцу не спяшаліся. І надалей працягвалі б маўчаць.

Я выступіла перад людзьмі не дзеля таго, каб сказалі: “Якая малайчына!” Накіпела і набалела! Проста хацела сказаць людзям, што разам мы сіла.

У Віцебску зачынены «КІМ», некаторыя іншыя прадпрыемствы. Захоўваюцца даўгі па зарплаце, распрадаецца маёмасць, каб пагасіць запазычанасці, але грошай усё роўна не хапае. Вакансій па горадзе мала. Да чаго дажылі: каб сабраць дзіця ў садок ці ў школу, некаторым сем’ям трэба браць крэдыт! Якія кошты ў аптэках, колькі жабракоў каля крамаў! Гэта ж знявага.

Мужчыны едуць у Маскву, каб хоць нейкі мінімум прывезці дадому, а жонкі з дзецьмі застаюцца адны. Колькі з-за такіх паездак сем’яў развалілася?!

**– Удзельнікаў акцый пачалі выклікаць у міліцыю...**

– На мяне ніякага ціску не аказваецца. На працы ўсё нармальна, стаўленне не змянілася. Прыемна была здзіўлена салідарнасцю: тэлефанавалі сябры, знаёмыя, цікавіліся, як справы. Юрысты на ўсялякі выпадак пакінулі каардынаты.

У людзях прачынаецца пачуццё ўласнай годнасці, якога ў апошнія гады мы былі пазбаўлены.

Віцебск даўно не бачыў такой шматлікай акцыі. Мы дайшлі да філармоніі, а «хвост» яшчэ цягнуўся каля помніка князю Альгерду.

**– На ваш погляд, колькасць людзей на акцыях будзе павялічвацца?**

– Усё залежыць ад таго, ці з’явіцца чалавек, які здольны размаўляць з людзьмі, арганізоўваць іх і гэтак далей. У Віцебску на акцыях пратэсту не хапае лідара. Таксама важна, каб мясцовыя чыноўнікі пайшлі на дыялог. Давайце вырашаць праблемы спакойна і без эмацыянальных зрываў. Відаць жа, што насельніцтва незадаволена.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ДАЙДЖЕСТ

## В форме НКВД не воевали, а расстреливали солдат в спину

Генерал-лейтенанту милиции, главе МВД Беларуси Игорю Шуневичу нравится появляться на параде 9 Мая в милицейской форме времен сталинского террора.

Вот и в интервью президентской газете «Советская Белоруссия» он заявил, что намерен делать это и дальше. И похвастался, что обладает точной копией формы НКВД, пошитой по спецзаказу за свой счет, и даже всей экипировкой – от офицерского планшета до компаса времен войны. Такое поведение Шуневич объяснил желанием отдать дань уважения сотрудникам органов внутренних дел, которые воевали и боролись с бандитами.

### «Карающий меч» на параде

Склонность руководителя силового ведомства к публичной демонстрации формы НКВД вызвала шок у значительной части белорусского общества. Довольно странный способ проявить уважение к коллегам, честно боровшимся с преступностью в 30–50-х годах прошлого века.

Народный комиссариат внутренних дел под началом печально известных Генриха Ягоды, а потом Лаврентия Берии оставил недобрый след в памяти не только белорусов, но и всех народов СССР. Особое совещание НКВД имело неограниченные полномочия на вынесение внесудебных расстрельных приговоров и на лишение свободы на различные сроки.

Главное управление рабоче-крестьянской милиции было составной частью НКВД. И милиционеры, носившие форму, которой так гордится господин Шуневич, беспрекословно выполняли не только приказы по борьбе с ворами, насильниками и убийцами, но и функции «карающего меча советской власти». В ведении НКВД находился ГУЛАГ. Преемником НКВД с 1953 года стало МВД СССР. Но и его давно нет, как и самого Советского Союза.

Так какая же связь между суверенной Республикой Беларусь и синими лампасами на галифе образца времен сталинского террора, которые с удовольствием напяливает на себя глава белорусского МВД? И не на карнавал, а на парад по случаю государственного праздника 9 Мая, когда на трибуне министр стоит рядышком с белорусским президентом Александром Лукашенко. Связь есть. И самая прямая.



### Синие лампасы генерал-лейтенанта

Власти Беларуси – единственной страны на постсоветском пространстве – официально не признали факта массовых репрессий. Исследованиями сталинского террора сейчас занимаются только независимые историки. Между тем лишь за один 1937 год в восточных областях БССР люди в форме НКВД, в которую рядится Игорь Шуневич, расстреляли 80 тысяч человек. В том же 1937-м в минской тюрьме НКВД были расстреляны более ста представителей интеллектуальной элиты БССР – ученых, литераторов, государственных деятелей. Всего, по разным данным, за время правления Сталина на белорусской земле были расстреляны, отправлены в ГУЛАГ и интернированы от 600 тысяч до 1,8 млн человек.

В эти дни в Минске в урочище Куропаты круглосуточно дежурили молодежные активисты, пытаясь помешать строительству торгового центра на территории, которую власти вывели из статуса охранной зоны. На этом месте с 1937-го по 1941 год проходили массовые расстрелы, в безымянных могилах захоронены десятки тысяч человек. О том, что творил НКВД в Беларуси, генерал-лейтенант милиции Шуневич не мог не знать, разглагольствуя в интервью об оригинальных пуговицах на специально пошитом для него энкавэдэшном мундире.

Если он не понимает, что главе МВД нельзя надевать на себя такую форму в Беларуси, пострадавшей от сталинских репрессий, – это глупость. А если глава силового ведомства делает это осознанно, то тогда тут не просто фарс с переодеванием, а прямая угроза безопасности страны. Угроза, потому что в новейшей истории Беларуси полно примеров, показывающих преемственность традиций, когда милиция не соблюдала законность, а обслуживала власть, жестоко расправляясь с ее оппонентами.

«В форме НКВД не воевали, а расстреливали в спину солдат советской армии. Сочувствую этому человеку, очень жаль, что он возглавляет МВД Беларуси». «Это не ему, а нам надо посочувствовать», – пишут белорусы в соцсетях. Но Игорь Шуневич их не слышит. Его некому остановить. Самое время потребовать: министр, снимите мундир НКВД!

**Наталья МАКУШИНА, обозреватель DW.**

ЧУЛІ?

# Мечыслаў Яскевіч ствараe трэці польскі саюз

Устаноўчы камітэт магчымай новай арганізацыі – грамадскае аб'яднанне "Супольнасць палякаў у Беларусі" – ужо створаны. Адбылося гэта на пасяджэнні ў Гродне, у ім узялі ўдзел 69 чалавек. Устаноўчаму камітэту нададзена права ажыццяўлення дзейнасці, звязанай з рэгістрацыяй арганізацыі.

*"Мы не маем намеру нікога прыніжаць, абражаць ці кідаць ілжывыя абвінавачанні,* – кажа Мечыслаў Яскевіч. – *Час і практыка пакажуць, чыё бачанне будзе служыць палякам у Беларусі, хто будзе збіраць рэальныя сімпатыі і прыхільнікаў, будзе больш эфектыўным у абароне і рэалізацыі іх правоў".*

Як раней пісала "Народная Воля", 10 снежня на чарговым з'ездзе непрызнанага беларускімі ўладамі Саюза палякаў Беларусі Мечыслаў Яскевіч быў пераабраны, новым лідарам арганізацыі стала Анжаліка Борыс. Аднак Яскевіч не вярнуў арганізацыі фінансавыя дакументы, і яго сяброўства ў СПБ было прыпынена.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СКАНДАЛ

# Украинские авторы учебника по литературе не знают, как выглядит Василь Быков

После «февральской революции» 2014 года новая власть в Украине решила изменить всю ту систему, которую выстраивал Виктор Янукович и откровенно пророссийский министр образования Дмитрий Табачник.

Табачник считался рьяным украинофобом, за годы руководства Министерством образования отметился тем, что перевел обучение в школе с 12-летней системы на 11-летнюю. Начал отдалять украинское образование от европейского, приближая к стандартам Российской Федерации.

Достаточно громкий скандал разгорелся из-за ревизии учебников, которые Табачник решил отредактировать под свои понятия, не забыв о коррупционной составляющей, которая в дальнейшем сказалась на итоговой их цене для государства.

После прихода к власти новые чиновники приняли решение вернуть 12-летнюю систему школьного образования. А в первую очередь достаточно оперативно в кратчайшие сроки разработали и напечатали новые учебники.

На днях мне попал в руки один из таких новых учебников – «Зарубежная литература» для 7-го класса 2015 года издания под редакцией Евгении Волощук и Елены Слободянюк. Решил просмотреть, кого из мировых мастеров пера изучают в современной украинской школе. Оказалась достаточно интересная подборка поэтов и писателей. Там Вальтер Скотт и Диана Уинн Джонс, Эдгар По и Артур Конан Дойл, Герберт Уэллс и Фридрих Шиллер, Адам Мицкевич... Не забыли, конечно же, и Александра Сергеевича Пушкина, наряду с ним присутствуют и другие не менее знаменитые авторы. А на десерт в конце учебника увидел даже Айзека Азимова и Корнелию Функе.

Среди этого звездного состава авторов присутствует и наш Василь Быков. Заинтересовавшись этим фактом, открыл страницу учебника с информацией о нем, и первое, что бросилось в глаза, – это фотография. На ней оказался совсем другой человек. Удивительно, конечно, что в век интернета происходят такие нелепые ошибки. В Беларуси отдельные чиновники путают Якуба Коласа с Янкой Купалой, в Украине, оказалось, не знают, как выглядит Василь Быков. Причем не знают авторы-составители учебника по литературе! Кроме того, в тексте Беларусь называется Белоруссией. Неужели Евгения Волощук и Елена Слободянюк настолько малограмотны, что не знают официального названия соседней дружественной им страны?!

Что касается фотографии, то интернет мне быстренько подсказал, что за Василя Быкова авторы учебника приняли россиянина Алексея Владимировича Местергази. Установить личность по фотографии оказалось проще простого. Было бы желание.

Белорусская журналистка Елена Литвинова, которая работает в Украине, обратилась в Министерство образования этой страны с просьбой исправить ошибку.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# «Как живут финны?»

***В «Народной Воле» за 14 февраля в одном из подразделов большой подборки под общим названием «Как живут финны?» указана средняя пенсия в Финляндии – 1700 евро. В правом же верхнем углу под рубрикой «Штрихи к портрету страны» дается другая цифра – 1540 евро. Так какая же средняя пенсия в Финляндии в действительности?***

***С уважением – подписчик газеты***

**Геннадий Басенок (Минск).**

***

Уважаемый Геннадий Сергеевич!

Спасибо за очень внимательное чтение публикаций газеты «Народная Воля»! Действительно, в подборке фигурируют две цифры. Сразу приносим извинения за то, что автор, готовивший материалы, не дал к ним соответствующих разъяснений.

В Финляндии на слуху три цифры, касающиеся пенсий, – мужская средняя, женская средняя и общая средняя. Так вот размер средней пенсии у мужчин составляет примерно 1700 евро, у женщин – 1300 и общей – 1540 евро и даже чуть более.

Как видим, средняя пенсия у женщин меньше, чем у мужчин. Разница объясняется тем, что существует разница между зарплатами мужчин и женщин, а также тем, что у представителей, как говорится, слабого пола более короткий, чем у мужчин, трудовой стаж. В финском обществе давно ведутся дискуссии на тему разных зарплат и пенсий для мужчин и женщин. Видимо, поэтому и выделяют отдельно сумму женской пенсии, чтобы было видно реальное положение дел. Но это уже другая тема.

В вышеназванной подборке мы привели размеры только двух пенсий – средней мужской и общей. И забыли пояснить реальную пенсионную ситуацию в Финляндии.

Приносим извинения за упущение.

УРАЖАННІ

# Рудзенск у мроях

## *Штрых-партрэт аднаго з гарадоў-спадарожнікаў Мінска*

*(Працяг. Пачатак у №17.)*

### Двое і адзін

Міхаіл Парфёненка, з якім чытачы "Народнай Волі" пазнаёміліся ў мінулым нумары, лічыць сябе адзіным бэнээфаўцам у Рудзенску. "Раней нас было двое, – распавядае ён, – я і Міхаіл Калянковіч, былы начальнік канструктарскага аддзела мясцовага завода "Святлотэхніка". На нашым рахунку нямала карысных спраў, хаця мой цёзка меў сур'ёзную інваліднасць, яму ампутавалі абедзве нагі. Мы распаўсюджвалі ўлёткі, незалежную прэсу, агітавалі за "сваіх" кандыдатаў на выбарах. Падтрымлівалі настаўніцу з вёскі Талька Пухавіцкага раёна Наталлю Ільініч, якую ўлады за дэмакратычную пазіцыю пазбавілі працы і цкавалі.

Калянковіч моцна канфліктаваў з дырэктарам прадпрыемства, на якім працаваў. Ён у адкрытую крытыкаваў закупку ў Германіі састарэлага абсталявання і пазаўчарашніх тэхналогій. Немцы збывалі тое, што ў іх ужо стала металаломам.

Некаторыя лічаць, што пад электрычку Міша трапіў невыпадкова. Мне цяжка меркаваць, так гэта ці не, але і ён сам пасля той трагедыі не мог усвядоміць, як і што раптоўна атрымалася.

Калянковіч памёр, як і той дырэктар, з якім ён жорстка канфліктаваў".

Міхаіл Парфёненка разумее, што адзін у полі не воін. Але ён не здраджвае сваім перакананням. Спадзяецца на абуджэнне мясцовага люду, на тое, што Рудзенск у рэшце рэшт рэальна стане горадам-спадарожнікам Мінска. І пасялкоўцы да яго цягнуцца.

### За падмогай да кітайцаў

Шпацыруючы па пасёлку, мы спыніліся ля галоўнага вытворчага корпуса ААТ "Рудзенск". За больш як 80-гадовую гісторыю прадпрыемства перажыло нямала рэарганізацый. Тут малолі муку, шылі адзенне, выпускалі цацкі, ваксу для абутку, керамічны посуд… У 1995 годзе нямецкі банк "АКА Гермес" выдаў крэдыт на 23 мільёны марак, валюту накіравалі на набыццё тэхналагічнай аснасткі для вырабу аўтамабільных фар. Прадукцыя ААТ "Рудзенск" некаторы час паспяхова канкуравала з вырабамі расійскіх вытворцаў, яе чакалі на канвеерах КамАЗа, УралАЗа, ЗІЛа, Паўлаўскага аўтобуснага завода. Ды і МАЗ з МТЗ рабілі вялікія заказы. Як і "Гомсельмаш" з "Лідсельмашам".


Рудзенская паліклініка на рамонце ўжо чатыры гады.

У канцы мінулага года група спецыялістаў ААТ "Рудзенск" на чале з дырэктарам Сяргеем Клімовічам пабывала ў Кітаі. Не на экскурсіі, а з канкрэтнай мэтай – каб набыць у калег з Паднябеснай спецыяльны тэрмапласт-аўтамат. Без яго можна згубіць кліентуру ў Расіі, а цяпер ёсць спадзяванне, што гэтага ўдасца пазбегнуць.


А тут калісьці ўсё ж будзе царква. Пакуль – толькі фундамент.

Мы пагутарылі з некаторымі работнікамі прадпрыемства. Сумная прыкмета нашага часу: ніхто не хоча, як кажуць, свяціцца, называць сваё імя, прозвішча. Бо хваліцца няма чым, а за крытыку ў бок начальства рызыкуеш застацца без працы.

І ўсё ж не будзеш радавацца, калі для гэтага няма падставы. Многія з тых, хто займаецца вырабам дэталяў з палімераў, атрымалі за студзень па 280 рублёў. Умовы працы між тым шкодныя. У рэкламных абвестках пра вакансіі, якія час ад часу з'яўляюцца, лічбы заробкаў таксама не вельмі прывабныя. Тэрмісту абяцаюць 550 рублёў у месяц, ліцейшчыку пластмас – 450. Нават для галоўнага тэхнолага невысокая столь – усяго 650 рублёў.

На фасадзе галоўнага корпуса прадпрыемства вісіць лозунг "НАШ ЗАВОД – НАША ГОРДОСТЬ". Дай божа, каб так было на самай справе. Пакуль ганарыцца няма чым.

### Крынічная вада

Горад-спадарожнік Мінска, калі ён усё-такі пачне будавацца, можа і не зачапіць Рудзенск. Ён паўстане паміж ім, пасёлкам Дружным і ЦЭЦ-5, праглыне існуючыя навакольныя вёскі і садовыя таварыствы.

Паводле ранейшага плана, ужо павінны былі з'явіцца дарогі, інжынерныя камунікацыі.

У чыноўніцкіх кабінетах пагаворваюць: раз у дзяржавы няма грошай, то лепш схаваць праекты гарадоў-спадарожнікаў у шуфляду і на доўгі час забыцца на іх. Частковае, беднае фінансаванне, будаўніцтва фрагментаў горада "на жывую нітку" абернецца дыскрэдытацыяй ідэі.

У якім стане інжынерныя сеткі ў Рудзенску – лепш не разважаць. Ад Міхаіла Парфёненкі мы даведаліся, як жыхары пасёлка сваімі сіламі аднаўлялі мясцовы водаправод: "Вежа некалі была пабудавана на ўскрайку Рудзенска яшчэ ў часы калектывізацыі, на тым месцы, дзе моцна бруілі крыніцы, іх называлі ў народзе святымі. Гадоў 20 таму вежа перастала падаваць ваду – сапсавалася абсталяванне. Добра, што не знеслі. Людзі аб'ядналіся і аднавілі водаправод. Без дапамогі ўлад. Цяпер з кранаў у дамах цячэ, лічы, крынічная, смачная вада".

### На электрычку і ў Мінск

Штодня з Рудзенска едуць у Мінск на працу больш за семсот чалавек. Вакансіі, якія перыядычна з'яўляюцца на мясцовых прадпрыемствах, у гандлі, не прываблiваюць памерам заробкаў. Ды і наогул паспрабуй уладкавацца ў пасёлку, калі на той жа "Святлотэхніцы" раней працавала каля дзвюх тысяч чалавек, а цяпер – у пяць разоў менш.

Для пенсіянераў паратункам служаць агарод, сад. Міхаіл Парфёненка настойліва прапагандуе: і старым, і маладым не імкнуцца ў Мінск, а ўсё ж знайсці занятак на месцы. Яго, напрыклад, выручае карова. Малака хапае сабе і многім суседзям. Утрыманне жывёліны апраўдваецца і з фінансавага боку.

Тут нельга не ўзгадаць пра знаёмства з Уладзімірам Абакунчыкам. Яму нядаўна споўнілася 80 гадоў. Чалавек, без перабольшвання, легенда. Працаваў канструктарам на галоўным прадпрыемстве Рудзенска. Быў знакаміты і доўгі час незаменны. Калі сыходзіў на пенсію, настойліва ўгаворвалі застацца. Не ўгаварылі, але заключылі дамову: прывезлі яму дахаты чарцёжны кульман і ўсе неабходныя для працы прычындалы, каб у вольны час ён мог выконваць заводскія даручэнні.

Але на пенсіі яго больш прывабліваe гадоўля коз. Мы сустрэліся з ім на ўскрайку Рудзенска, дзе ён ссякаў хмызняк і ўкладваў ссечанае веццe ў каляску.

– Для чаго?

– Абдзіраю нажом кару, сушу яе і даю сваім козачкам.

– Не хапае корму?

– Хапае. Раздурэлі, гарбузоў есці не хочуць. Дай ім кары! Паглынаюць з вялікім апетытам. Каб вы чаго лішняга не падумалі, казінае малако і сыроватка ад яго мяне вылечылі ад цяжкай хваробы. І я цяпер без гэтых жывёлін жыць не магу. Усім рэкамендую спажываць казінае малако.

Яшчэ адзін характэрны штрых з жыцця рудзенцаў. У Сеціве трапілася інфармацыя, што ў гарадскім пасёлку аж 11 футбольных палёў. Мы, праўда, столькі не налічылі. Але ўбачылі, як на адным з іх, каля самай школы, гулялі козы Уладзіміра Абакунчыка.

…Такія вось рэаліі жыцця Рудзенска, які з'яўляецца кандыдатам ледзь не нумар адзін на статус горада-спадарожніка Мінска. Пакуль, праўда, на паперы.

**Мікалай ДЫМ, Мікалай ЗЕНЕВІЧ.**

*Мінск–Рудзенск–Мінск.*

БЕЛАРУСЬ–ПОЛЬШЧА

# За подпісам Краўчанкі і Скубішэўскага…

## *2 сакавіка 2017 года споўнілася 25 гадоў з дня ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Польшчай і Рэспублікай Беларусь.*

ПАГАДНЕННЕ

паміж Рэспублікай Польшча і Рэспублікай Беларусь аб устанаўленні дыпламатычных адносін

Рэспубліка Польшча і Рэспубліка Беларусь,

– беручы пад увагу традыцыйныя і гістарычныя адносіны дружбы паміж народамі Польшчы і Беларусі,

– упэўненыя ў тым, што найлепшым спосабам умацавання міру і міжнароднай бяспекі з'яўляецца ўзаемаразуменне і супрацоўніцтва паміж народамі ў адпаведнасці з міжнародным правам, асабліва ў адпаведнасці з прынцыпамі роўнасці, павагі да суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці, самавызначэння народаў і неўмяшання ва ўнутраныя справы,

– выражаючы зацікаўленасць у больш цесным супрацоўніцтве, а таксама стварэнні новых стымулаў на карысць міру і стабільнасці ў Еўропе, а таксама супрацоўніцтва ў эканамічнай, гандлёвай і культурнай галінах,

– кіруючыся мэтамі і прынцыпамі Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і дакументаў Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, у тым ліку Хельсінкскага Заключнага Акта і Хартыі для Новай Еўропы,

– заснуваючыся на мэтах і палажэннях Венскай Канвенцыі аб дыпламатычных зносінах 1961 года,

1. Пагадзіліся ўстанавіць дыпламатычныя адносіны і абмяняцца прадстаўнікамі ў рангу надзвычайных і паўнамоцных паслоў.

2. Да прызначэння паслоў іх абавязкі будуць выконвацца часова паверанымі ў справах, якія прызначаюцца Міністрамі Замежных Спраў абедзвюх краін.

3. Пагадненне ўступае ў сілу з дня падпісання.

Афармлена ў Варшаве 2 сакавіка 1992 года, у двух экземплярах кожны на польскай і беларускай мовах, прычым абодва тэксты маюць аднолькавую сілу.

Міністр Замежных Спраў Рэспублікі Польшча

Міністр Замежных Спраў Рэспублікі Беларусь

З гэтай нагоды архіў МЗС Польшчы прэзентаваў гістарычныя дакументы і фотаздымкі.

– *Найбольш важным дакументам, які ўваходзіць у прадстаўленыя матэрыялы, з'яўляецца пагадненне аб устанаўленні дыпламатычных адносін ад 2 сакавіка 1992 года,* – падкрэсліваюць у амбасадзе Польшчы ў Беларусі. – *Яго падпісалі міністры замежных спраў Польшчы і Беларусі – Кшыштаф Скубішэўскі і Пётр Краўчанка, які знаходзіўся з візітам у Варшаве. Змешчаны дзве моўныя версіі (польская і беларуская) падпісанага пагаднення.*

Сярод прэзентаваных матэрыялаў ёсць даверчыя граматы першых дыпламатычных прадстаўнікоў Польшчы і Беларусі – Яніны Эльжбеты Смулэк (Эльжбеты Смулковай) і Уладзіміра Санько, а таксама копія дыпламатычнага пашпарта польскага пасла.

Змешчаны таксама фотаздымкі даваеннага перыяду, звязаныя з дзейнасцю Генеральнага консульства Польшчы ў Мінску, на іх прадстаўлены будынак дыпмісіі і яе персанал.

– *У даваенны перыяд у Мінску дзейнічала Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча, падначаленае Пасольству ў Маскве. Установа працавала да 1939 г., яе апошнім кіраўніком быў Казімеж Рудзкі,* – нагадваюць гісторыю беларуска-польскіх узаемаадносін у амбасадзе. – *У пасляваенны час (з 1972 г.) у Мінску дзейнічала таксама Генеральнае консульства ПНР. У выніку палітычных змен 1989-га і наступных гадоў, паступовага распаду Савецкага Саюза Польшча набыла незалежнасць, пачала будавацца беларуская дзяржаўнасць.*



Супрацоўнікі Генеральнага консульства Польшчы ў Мінску, 1928 г. (NAC).

25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет тагачаснай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі абвясціў аб незалежнасці. Праз некалькі дзён – 31 жніўня – Парламент Польшчы прыняў пастанову, у якой адзначалася, што "*Сейм Рэспублікі Польшча з радасцю вітае абвяшчэнне незалежнасці Беларусі 25 жніўня 1991 года*", якое стала "*рэалізацыяй памкненняў беларускага народа*". 10 кастрычніка 1991 года была падпісана Дэкларацыя аб добрасуседстве, узаемаразуменні і супрацоўніцтве, а шлях да ўстанаўлення дыпламатычных адносін адкрыў афіцыйны распад СССР у снежні 1991 года. Узаемаадносіны былі ўстаноўлены ў рамках пагаднення, падпісанага міністрамі замежных спраў 2 сакавіка 1992 года, што дазволіла абмяняцца дыпламатычнымі прадстаўнікамі (спачатку ў рангу часовых паверaных) і стварыць дыпмісіі ў Варшаве і Мінску. У гэтым жа годзе – 23 чэрвеня – прэзідэнт Польшчы Лех Валенса і старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч падпісалі ў Варшаве Дагавор аб добрасуседстве і прыязным супрацоўніцтве.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

